# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 43 (429) — Нядзеля, 9 лістапада 1958 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 12


# Выбары ў Амэрыцы

4-га лістапада ў ЗША адбыліся выбары. Шчасьцем ці няшчасьцем гэтае краіны ёсьць тое, што там амаль штогоду нешта або некага выбіраюць. Аднак апошнія выбары будуць мець вялікае значаньне, таму што цяпер выбіралася ўся ніжэйшая палата амэрыканскага парляманту, адна траціна сэнату і 32 губарнатараў штатаў. Як ужо ведама, рэспубліканская партыя падчас гэтых выбараў мела вялікую паразу.

І вось-жа, можа ў парадку дыгрэсіі — кіньма вокам на гэтае палажэньне ў сьвятле бальшавіцкае рэчаіснасьці. Там такое палажэньне зусім немагчымае. Бо як-жа можа так здарыцца? — цяперашні прэзыдэнт — рэспубліканец, заступнік — рэспубліканец, дзяржаўны сакратар — рэспубліканец, адміністрацыя і ўлада ў руках рэспубліканцаў, а грамадзяне выбіраюць дэмакратаў! Ды як-жа гэта атрымалася? У Савецкім Саюзе, ці ў падпарадкаваных яму краінах, такія казусы не здараюцца. Там — як правіла, той хто ля ўлады, атрымоўвае 99 і прынамсі яшчэ 0.7 працэнтаў галасоў. Сто працэнтаў — непажадана, бо вельмі-ж кідаецца ў вочы.

І вось тут розьніца між «там» і «тут»: у Савецкім Саюзе, дзе ёсьць нейкая супэр-обэрдэмакратыя людзі мусяць галасаваць так, як ім загадваюць. а ў Амэрыцы — толькі нармальная дэмакратыя й таму грамадзяне галасуюць як хочаць.

Таму што сымбалямі дзьвёх амэрыканскіх партыяў ёсьць адная слонь, а другой — асёл, заўсёды пасьля выбараў камуністычная прапаганда паўтарае такую карыкатуру: таўсты банкір з даўжэзнай пугай гоніць сланя й асла «ў вадну стайню». Сёлета-ж чамусьці Масква з выразным задаваленьнем вітала вынікі выбараў у Амэрыцы. Аднак гэта толькі хіба з прычыны таго, што апошнім часам Айзэнгаўэр і Далес спынілі блізарукую палітыку ўступстваў перад Масквой. Можна спадзявацца, што перамога дэмакратаў ня будзе мець вялікага ўплыву на пазыцыю амэрыканскага ўраду ў вонкавай палітыцы. У папярэднім парляманце дэмакраты таксама мелі бальшыню й таму Айзэнгаўэр і Далес не маглі праводзіць свае палітыкі бязь іхняй згоды. А былі навет выпадкі, калі некаторыя праекты Айзэнгаўэра атрымоўвалі большую падтрымку з боку дэмакратычнае партыі, чымся рэспубліканскае.

Падчас перадвыбарчае кампаніі кандыдаты дэмакратычнае партыі ня выказваліся дакладна, як яны выкарыстаюць сваю бальшыню ў кангрэсе адносна такіх пытаньняў як дапамога іншым краінам, прызнаньне камуністычнага Кітаю, ці перамоваў з Савецкім Саюзам. Праўда, дэмакраты часта крытыкавалі палітыку Далеса ў дачыненьні да Далёкага Ўсходу, аднак яны не прапанавалі й дакладна акрэсьленай палітычнай лініі ў дачыненьні гэтых праблемаў. Таму, праўдападобна, у галіне замежнай палітыкі ня будзе радыкальных зьменаў.

Перамога дэмакратаў была вынікам незадаваленьня выбаршчыкаў нутранымі справамі. Апошні эканамічны спад, вялікая колькасьць беспрацоўных, справа Шэрмана Адамса й іншыя, — усё гэта зьменшыла давер да рэспубліканскае партыі. Таму можна думаць, што ў нутраным жыцьці краіны могуць наступіць пэўныя зьмены.

Апошнія выбары былі паважнай падзеяй, таму й ня дзіва, што за імі сачыў увесь сьвет. Яны ня былі толькі амэрыканскай нутраной справай, бо хочучы ці ня хочучы, Амэрыка сталася правадыром вольных сілаў у змаганьні з бальшавіцкай экспансіяй. Таму вынік выбараў ня мог быць абыякавы для абодвух варожых лягероў. Будзем надзеіцца, што нованыбраныя ворганы зразумеюць веліч сваёй місіі ў сучасны мамэнт і павагу сваёй адказнасьці перад людзтвам і гісторыяй. Аб гэтым гаварыў лідар дэмакратычнай партыі Адляй Стывэнсон:

«Я ўпэўнены, што дэмакратычны Кангрэс выкарыстае свае магчымасьці з поўным пачуцьцём свае адказнасьці. Я спадзяюся, што варожасьць выкліканая перадвыбарчай кампаніяй, хутка пройдзе ў забыцьцё. Тое, што дзеліць нашы дзьве партыі, беспараўнаньня менш важнае, чымся тое, што нас лучыць: любоў да справядлівасьці, свабоды, міру й да нашай бацькаўшчыны».

Гэтакае асьветчаньне можна толькі шчыра вітаць і жадаць, каб гэтыя ідэалы амэрыканскі Кангрэс праводзіў у жыцьцё.

**пс**

# Ля атамнага тупіку

У Жэнэве праходзіць нарада прадстаўнікоў Задзіночаных Штатаў, Ангельшчыны й Савецкага Саюзу ў пытаньні аб спыненьні выпрабаваньняў атамнай і вадароднай зброі. Той факт, што прадстаўнікі трох «атамных» дзяржаваў зьехаліся ў Жэнэву для перамоваў аб увядзеньні эфэктоўных мерапрыемстваў кантролю над тэрмаядзернай зброяй, выклікае ў цэлым сьвеце надзею на тое, што гэтай нарадзе ўдасца зрабіць які-небудзь крок наперад для стварэньня ўмоў, якія забясьпечылі-б трывалы мір.

Неабходнасьць пакончыць з выпрабаваньнямі атамнай зброі ўсьведамляецца ўжо даўно. Даўно ўжо стала відавочным, што атамная вайна ператварыла-б у руіны ўвесь сьвет і што ў выпадку ейнага ўзьнікненьня звычайныя паняцьці аб «пераможцах» і «пераможаных» выявіліся-б зусім застарэлымі.

Мала таго. Прадаўжэньне выпрабаваньняў тэрмаядзернай зброі можа мець найбольш згубныя вынікі для ўсёй людзкасьці. Як зазначыў увесну гэтага году савецкі вучоны, акадэмік Курчатаў, калі атамныя экспэрымэнты будуць прадаўжацца, дык у будучыні ў кажным пакаленьні мільёны чалавек будуць нараджацца хворымі.

У свой час да Курчатава далучыўся навет Хрушчоў, які ў сваёй прамове, сказанай у Будапэшце, заклікаў «не засьмечваць атмасфэры прадуктамі распаду радыяактыўных рэчываў». Падобныя заявы неаднаразова рабіліся вучонымі й палітычнымі дзеячамі заходняга сьвету. Здавалася-б, адсутнасьць прынцыповых разнагалосьсяў у такім асноўным пытаньні павінна была-б садзейнічаць ягонаму вырашэньню. Аднак, пераход ад словаў да дзеяньня да гэтага часу ня мог быць дасягнуты й да ніякіх канкрэтных пагадненьняў прыйсьці не ўдалося.

Не ўдалося дасягнуць агульнага пагадненьня ў гэтым пытаньні, ня гледзячы на тое, што фактычна перамовы ў гэтым пытаньні, ці хаця-б аб тым каб вытворчасьць атамнай зброі была пастаўленая пад міжнародны кантроль, працягваюцца ўжо амаль дванаццаць гадоў, гэта значыць мала менш за пэрыяд ад часу выбуху першай атамнай бомбы.

Яшчэ ў 1946 годзе, у той час, як Задзіночаныя Штаты мелі манаполь на вытворчасьць атамнай зброі, амэрыканскі ўрад запрапанаваў у Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў гэтак званы «плян Баруха». Плян гэты прадугледжваў стварэньне «міжнароднага агенцтва», якому падлягалі-б усе расчаплянльныя матарыялы і, такім чынам, далейшая вытворчасьць атамнай зброі знаходзілася-б пад міжнародным кантролем. Аднак, тады савецкі прадстаўнік у атамнай камісіі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, цяперашні міністар замежных справаў СССР, Грамыка, адхіліў «плян Баруха», заявіўшы, што ён супярэчыць нацыянальным і эканамічным інтарэсам іншых дзяржаваў.

Хутка пасьля гэтага савецкі ўрад пачаў сам вытворчасьць атамнай зброі. Ён пачаў дамагацца забароны атамных выпрабаваньняў толькі пасьля таго, як сілы абодвух бакоў у гэтай галіне былі больш-менш зраўнаважаныя. Аднак, дамагаючыся спыненьня атамных выпрабаваньняў, савецкі ўрад заўсёды ўхіляецца ад падпісаньня пагадненьня ў пытаньнях усеагульнага раззбраеньня й зрывае ўсе канфэрэнцыі, якія склікаюцца для гэтай мэты. Улічваючы сваю перавагу ў галіне звычайных відаў узбраеньня, ён ня хоча яе страніць. Адмова савецкага ўраду ад падпісаньня пагадненьня аб эфэктыўным міжнародным кантролі ў якой-небудзь форме, да гэтага часу прыводзіць да таго, што ўсе перамовы аб раззброеньні заўсёды заходзілі ў тупік.

Увесну гэтага году, пасьля таго, як на савецкай тэрыторыі была праведзеная сэрыя тэрмаядзерных выпрабаваньняў, савецкі ўрад, не зьвяртаючы ўвагі на заходнія прапановы аб стварэньні ўзаемнага кантролю, аднабакова абвесьціў аб тым, што ён спыняе праводжаньне выпрабаваньняў.

Між тым савецкі ўрад узнавіў свае атамныя выпрабаваньні й апошнімі днямі, перад адкрыцьцём новай нарады ў пытаньні аб спыненьні іх, адкінуў ангельска-амэрыканскія прапановы спыніць выпрабаваньні на адзін год, ня гледзячы на тое, што, як гаварыў амэрыканскі прадстаўнік у АЗН Лёдж, у выпадку згоды савецкага ўраду спыненьне выпрабаваньняў магло-б быць пасьля прадоўжанае на неакрэсьлены час. Савецкі ўрад далей дамагаецца абсалютнага й бязумоўнага спыненьня экспэрымэнтаў, ня ўключаючы гэтага пытаньня ў вагульную праблему раззбраеньня.

Вось што папераджала адкрыцьцё новай жэнэўскай нарады. Пагадненьне аб спыненьні тэрмаядзерных выпрабаваньняў — калі яго ўдасца дасягнуць — было-б толькі першым крокам на шляху да агульнага разбраеньня. Яно зьменшыла-б міжнароднае напружаньне й стварыла-б атмасфэру, якая спрыяла-б падпісаньню далейшых і больш эфэктоўных пагадненьняў.

**Р. В**

# „А ці можна скараціць тэрмін?"

У савецкай прэсе апошнімі часамі падаюцца абшырныя рэпартажы з наведваньня польскай урадавай дэлегацыяй паасобных цэнтраў Савецкага Саюзу. У дэлегацыю ўваходзяць першы сакратар ЦК Польскай Аб'еднанай Работніцкай Партыі В. Гамулка, старшыня дзяржаўнай Рады Польскай Рэспублікі А. Завадзкі й старшыня Рады Міністраў Ю. Цыранкевіч.

Польскую дэлегацыю сустрэлі ў Маскве зь вялікім гонарам. Пасьля Масквы яна наведала таксама Тбілісі, Кіеў і Менск.

З нагоды прыезду польскай дэлегацыі ў Менск «Советская Белоруссия» зьмясьціла перадавіцу пад загалоўкам «Нех жие пжиязнь».

Перадавіца шмат аб чым піша, толькі чамусьці не ўспамінае, як суродзічы польскае дэлегацыі, адказныя працаўнікі камуністычнае партыі й частка былых ППС-аўцаў былі ўсе ў Менску арыштаваныя ў 1937 годзе й зьнішчаныя. Сярод іх — стары сябра партыі. народны камісар земляробства БССР — Бэнэк. віцэпрэзыдэнт Беларускай Акадэміі навук — Домбаль, сябра кантрольнай камісіі — Серпень і шэраг іншых.

Зь Менску дэлегацыя пераехала ў Ленінград, куды зьявіўся й сам Хрушчоў. 4-га лістапада Хрушчоў разам з польскімі гасьцямі наведаў Балтыцкі судабудаўнічы завод. На заводзе адбыўся мітынг работнікаў і службоўцаў, на якім выступіў сам Хрушчоў.

Адвёўшы вялікую долю выказваньню самых прыязных дачыненьняў да кіраўнікоў сучаснай Польшчы й яе народу, Хрушчоў спыніўся на тэй магутнасьці, якой дасягнуў Савецкі Саюз. Пры гэтай нагодзе ён дэмагагічна зьвярнуў увагу на тое, што «ворагі фанабэрыста называлі наш (савецкі) таленавіты народ неадукаванымі мужыкамі — лапцюжнікамі».

Каб выклікаць прыхільнасьць работнікаў заводу, Хрушчоў хваліў надзвычайныя дасягненьні ўва ўсіх галінах народнае гаспадаркі Ён казаў: «Даўно ўжо прайшлі цяжкія гады, калі наша краіна была беднай і тэхнічна адсталай». Далей ён хваліўся, што «надыйшоў час. калі ЗША мусяць саступіць з дарогі з тым, што першае месца займае СССР у выпуску прадукцыі на душу жыхарства. ЗША павінны будуць прыстроіцца за намі ў хвасьце».

Каб канчальна пераканаць польскую дэлегацыю ў надзвычайных дасягненьнях сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР, Хрушчоў на мітынгу сказаў: «Мы ўжо нарыхтавалі хлеба на адзін мільярд трыста мільёнаў пудоў больш, чымся ў мінулым годзе. Так што цяпер у нас хопіць збожжа й на чорны хлеб, і на белы хлеб, і на бліны, і на варэнікі ды й запасы створым».

У дадатак да хлеба Хрушчоў пастараўся пераканаць, што ў Ленінградзе ёсьць і малако. Ён зьвярнуўся да мітынгу й папытаў: «Ці ёсьць у вас у Ленінградзе малако?» Некалькі галасоў адказалі: «Ёсьць!»

Пэўна-ж, чалавек, меўшы хлеб і малако, з голаду ня зьгіне. Але ці з гэтага можна меркаваць, што ЗША падрыхтаваліся «прыстроіцца» ў хвасьце СССР?

Аднак Хрушчоў не спадзяваўся, што зь ягонай далейшай хвальбы атрымаецца анэкдот. Справа ў тым, што задумаў ён пахваліцца й дасягненьнямі ў жыльлёвым будаўніцтве. Зьвярнуўшыся да мітынгу, ён паведаміў, што маюцца паважныя зрухі ў жыцьцёвым будаўніцтве й папытаў прысутных: «Ці больш будуецца цяпер кватэр, чымся раней?» На гэтае пытаньне Хрушчоў атрымаў сьціплае «больш». Аднак на гэтым гутарка аб забясьпечаньні кватэрамі не закончылася. Каб падняць яшчэ вышэй свой аўтарытэт перад дэлегацыяй, Хрушчоў дадаў, што клопатамі ЦК партыі «задача вырашыць жыльлёвую праблему у 10-12 гадоў будзе з посьпехам разьвязана». Тут ужо ўдзельнікі ня вытрымалі й закрычалі: «А ці ня можна скараціць тэрмін?»

Пасьля такой непажаданай і, відаць, нечаканай рэплікі работнікаў, ды яшчэ ў прысутнасьці польскай дэлегацыі, Хрушчоў пакінуў свой вясёла-жартаўлівы тон і адказаў, што каб разьвязаць жыльлёвую праблему «патрэбна ў ка-

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# Беларускія дзеці й „Каласкі"

Усіх нас заўсёды радуе вестка аб зарганізаваньні кажнае новае школкі для беларускіх дзяцей у нашых большых асяродках. Паўставаньне такіх школак сьветчыць аб тым, што бацькі добра разумеюць патрэбу прышчэпліваньня сваім дзецям хаця-б элемэнтарных ведаў аб нашай бацькаўшчыне, народзе, мове, звычаях, традыцыях і г. д.

Арганізаваньне й вядзеньне беларускіх школаў у эміграцыйных умовах — гэта справа, зразумела, ня лёгкая. Нельга тут не падчыркнуць вялікае ахвярнасьці й бязінтэрэсоўнасьці тых настаўнікаў, што аддаюць свой вольны час і энэргію, а ня рэдка й матар'яльныя сяродкі на ўзгадоўваньне беларускіх дзетак. Пры гэтым, як спэцыфічнасьць умоваў, у якіх вядуцца школкі, так і спэцыфічнасьць самых школак гэтую працу робяць яшчэ больш цяжкай. Такую важную справу, як выдаваньне адпаведных падручнікаў і дапаможнікаў (лемантары, чытанкі ды й наагул дзіцячая літаратура) разьвязаць ня так лёгка. І таму можна сабе ўявіць на якія перашкоды натыкаецца настаўнік у школе ці бацька дома, калі хоча сваё дзіцё вучыць чытаць пабеларуску.

Недахоп такой літаратуры ў пэўнай ступэні замяняюць «Каласкі», якія, зрэшты, як даведваемся ад шматлікіх чытачоў, зьяўляюцца цікавай лектурай ня толькі для дзяцей.

Нажаль, трэба прызнаць, што дзеці й настаўнікі беларускіх школак за мала маюць сувязяў з гэтым адзіным у нас часапісам для беларускіх дзяцей. Праўда, настаўнікі могуць сказаць, што гэта заданьне якраз часапісу трымаць сталую сувязь з тымі для каго ён прызначаны. Тут, бязумоўна, была-б іхная праўда, калі-б ізноў ня гэтая спэцыфічнасьць, хоць гэтым разам ужо ня школак, а самых умоў у якіх выдаецца часапіс. Нашым-жа настаўнікам гэтыя ўмовы мусілі-б быць зразумелымі.

Прынагодна прысланая фатаграфія з адкрыцьця навучальнага году ў якой-небудзь школцы ці выступ дзяцей на тэй ці іншай імпрэзе — гэта ўсё прыгожа, але далёка яшчэ недастаткова, каб назваць гэта кантактам. Жывы й запраўдны кантакт можа быць толькі тады, калі настаўнікі будуць дацэньваць патрэбу яго. Калі толькі «Каласкі» зьвернуцца да дзяцей, прапануючы пісаць у іх, дык з гэтага яшчэ нічога ня будзе, але калі настаўнік запрапануе ім напісаць супольны ліст, у якім-бы яны апісалі, скажам, жыцьцё свае школкі, чаго яны там навучыліся, што іх найбольш цікавіць, або за пасярэдніцтвам «Каласкоў» знаёміліся зь іншымі беларускімі дзецьмі ў іншых частках сьвету — гэта быў-бы кантакт, а часапіс праз гэта станавіўся-б своеасаблівай «трыбунай» беларускіх дзяцей на эміграцыі.

Падругое — у гэты часапіс мусілі-б пісаць і самі настаўнікі, якія маюць беспасярэдні сутык зь дзяцьмі як настаўнікі ці хаця-б сабе толькі як бацькі. Да гэтага-ж ёсьць у нас паэты-бацькі, які-б маглі час-ад-часу напісаць верш для дзяцей.

Вышэй гаварылася аб патрэбе адпаведнае лектуры для дзяцей беларускіх школак. Але-ж гэтымі школкамі ахоплена толькі нязначная колькасьць дзяцей беларускіх эмігрантаў. Таму «Каласкі» мо якраз больш патрэбны тым дзецям, што ня маюць змогі наведваць школак. І гэта таксама мусілі-б мець на ўвазе нашы настаўнікі, не гаворачы ўжо аб найбольш зацікаўленых — саміх бацькох.

Не апошнюю ролю грае й матар'яльны бок выдаваньня «Каласкоў», асабліва, калі хацець, каб часапіс быў ілюстраваны. Чым большая з гэтага гледзішча будзе дапамога грамадзтва, і зноў-жа ў першую чаргу саміх бацькоў, тым **больш будзе шансаў на далейшае выдаваньне часапісу.**

Разумеючы ўсю патрэбу беларускага друкаванага слова для дзяцей, мы й ставім гэтае пытаньне перад бацькамі й настаўнікамі.

**Г.**

**ХОЧАШ ЗРАБІЦЬ СВАЙМУ БЛІЗКАМУ ПРЫЕМНАСЬЦЬ І АДНАЧАСНА КАРЫСЬЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ, ПАДАРУЙ ЯМУ КАМПЛЕКТ КНІЖАК ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

# Зьменная роля АЗН

**Ад Рэдакцыі:** У кастрычніку сёлета, Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў адзначала 13-ыя ўгодкі свайго існаваньня. З гэтае нагоды ў газэце «Нью Ёрк Таймс» зьявіўся артыкул Томаса Гамільтона, які мы тут і перадрукоўваем у перакладзе. На нашу думку, артыкул гэты трапна аналізуе эвалюцыю АЗН

Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў адзначыла 13-ыя ўгодкі свайго існаваньня на даволі аптымістычнай ноце. Калі ўзяць на ўвагу актуальныя праблемы, дык сёлетні дзень нараджэньня АЗН застаў як Сярэдні, так і Далёкі Ўсход у стане нявызначанасьці. Да гэтага агульная атмасфэра паправілася ў выніку таго, што ўрады Савецкага Саюзу й Задзіночаных Штатаў не абменьваюцца больш эпітэтамі з такой энэргіяй, якую яны выявілі падчас ранейшае, больш вострае стадыі «халоднай вайны».

Аднак, усё-ж застаецца цяжкое ўражаньне, што атамны тупік, а ў выніку яго й «раўнавага страху», можа выявіцца ўрэшце недастатковымі дзеля таго, каб утрымаць сьвет ад небясьпекі вайны.

24 кастрычніка 1945 году, калі ўвайшла ў сілу Хартыя Задзіночаных Нацыяў, ніхто-б не зразумеў закліку Паблё Касаля супрацьдзеяць «вялікай, магчыма сьмяротнай, небясьпецы, якая пагражае цэламу чалавецтву».

Людзям, якія выпраўдоўвалі Хартыю, ніколі не прыходзіла ў галаву, што АЗН магла-б існаваць бяз поўнага супрацоўніцтва вялікіх дзяржаваў. Тады ўважалі, што Савецкі Саюз забавязаўся да таго супрацоўніцтва самым фактам сяброўства ў Арганізацыі.

Выходзячы з гэтага, Хартыя надзяліла Раду Бясьпекі вялізарным аўтарытэтам дзеля захаваньня міру, уважаючы, што вялікія дзяржавы звычайна знойдуць шляхі да пагадненьня. Ніхто не прадбачваў такіх крокаў, як савецкая блякада Бэрліну, напад на Паўдзённую Карэю або інтэрвэнцыя ў Вугоршчыне.

Штораз большае напружаньне паміж Усходам і Захадам ад часу карэйскае вайны, адзнакай якога зьяўляецца ўжываньне вэта, фактычна разбурыла Раду Бясьпекі. З рэдкімі выняткамі, Рада Бясьпекі абмяжоўваецца — калі наагул зьбіраецца — да бясплённых дэбатаў аб такіх непадатлівых праблемах як Кашмір ці гранічныя спрэчкі паміж Ізраэлем і ягонымі арабскімі суседзямі.

Генэральная Асамблея, якая пасьля выпадку з Карэяй дамагалася права прымаць на сабе вялікія палітычныя праблемы, што паўстаюць перад Арганізацыяй Задзіночаных Нацыяў, умагчыміла гэтай Арганізацыі далейшую дзейнасьць, хоць і ў іншым духу.

**Склад зьмяніўся.**

Адна з прычынаў гэтага — факт, што палітыка ўнівэрсальнага сяброўства, прынятая ў 1955 годзе, пабольшыла Азіяцка-Афрыканскі блёк да такое ступені, што ён падмяніў Лацінска-Амэрыканскіх саюзьнікаў Задзіночаных Штатаў, як дамінуючую сілу ў Асамблеі.

Гэта супала з найважнейшым фактам пасьляваеннае эры: Савецкі Саюз зламаў атамны манаполь Задзіночаных Штатаў, і выглядае, што ён стаў на першае мейсца ў галіне ракетнае зброі.

Жудасная магчымасьць вайны паміж двума атамнымі волатамі, а ў дадатак штораз большая колькасьць нэўтральных краінаў Азіі, Афрыкі й Эўропы, разбурылі якія-б ні былі пэрспэктывы Генэральнай Асамблеі магчы прымусіць сьвет да міру, інакш кажучы замяніць месца Рады Бясьпекі.

Галоўнай прычынай заснаваньня Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў была праблема аховы міру. Якую ролю можа адыграць самая Арганізацыя ў цяперашніх умовах? Частковы адказ на гэта можа даць Ліга Нацыяў, якая ў падобным паложаньні, перасунула сваё поле дзеяньня з палітычных праблемаў на праграмы эканамічнага й сацыяльнага разьвіцьця.

У некаторай ступені, гісторыя паўтараецца ў выпадку Задзіночаных Нацыяў, хоць настойлівыя дамаганьні дапамогі слаборазьвітых краінаў Азіі, Афрыкі й Лацінскае Амэрыкі былі-б высоўваньня так ці йнакш.

Да гэтага часу праграмы тэхнічнай дапамогі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў і ейных філіяльных аддзелаў, як Арганізацыя Харчаваньня й Сельскай Гаспадаркі, зусім малыя ў параўнаньні із сотнямі мільёнаў даляраў, якія даюць ЗША на падставе двубаковых умоваў. Савецкая праграма, хоць і меншая за праграму ЗША, таксама шмат большая за праграму АЗН.

Аднак і праграма тэхнічнае дапамогі АЗН шматабяцальная. Выглядае, што гэтая праграма мае больш магчымасьцяў, чымся дзейнасьць АЗН у галіне сацыяльнага прагрэсу. Што да апошняга, дык, прыкл., Усясьветная Дэкларацыя Людзкіх Правоў была ўхваленая Асамблеяй 10 год таму. Але ўмяшаньне анты-каляніяльных пытаньняў і праблемаў «халоднае вайны» дасюль перашкаджае прыняцьцю адпаведных умоваў дзеля наданьня Дэклярацыі легальнай сілы.

**Пытаньні разбраеньня**

Прыватныя гутаркі паміж міністрамі замежных справаў, якія прыбываюць на Асамблею абыймаюць часам цэлы шэраг пытаньняў, і гэтыя гутаркі могуць выявіцца асабліва вартаснымі ў выпадках, дзе традыцыйная дыпляматыя нядзейсная.

Адзін нядаўны прыклад вельмі павучальны. Хоць амбасадары ЗША й камуністычнага Кітаю вядуць у Варшаве перамовы, ніхто іншы як нарвэскі міністар замежных справаў, які прыбыў на Генэральную Асамблею, паведаміў дзяржаўнаму сакратару Далесу, што Пэкін згаджаецца весьці перамовы аб пагадненьні адносна Квэмой і Мацу — ня ўлучаючы Тайвану.

Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў адыгрывае таксама важную ролю ў спрэчных пытаньнях міжнароднага характару. Дзеля гэтае мэты яна мае адмысловыя ворганы.

Пачынаючы ад 1946 году да сёлета, Камісія ў справах разброеньня, а таксама й ейныя папярэднікі пры АЗН, карысталіся манаполем у дыскусіях як аб кантролі над атамным разброеньнем так і над разброеньнем у галіне звычайных відаў зброі. Аднак у выніку савецкага байкоту гэтае камісіі, у Жэнэве незалежна ад яе адбываюцца цяпер перамовы вялікіх дзяржаваў у пытаньнях аб спыненьні выпрабаваньняў атамнай зброі ды аб выкрыцьці нечаканага нападу.

Ува ўсякім выпадку, адна з галоўных функцыяў АЗН — інфармаваньне сусьветнае думкі аб вялікіх міжнародных праблемах —застаецца нязьменнай.

Ня гледзячы на шмат зьменаў, якія адбыліся за 13 гадоў, роля АЗН і надалей застаецца вельмі важнай.

# Дзе-ж сынкі бюракратаў?

Савецкая прапаганда трубіць на ўсе лады, што ў СССР эксплятацыя чалавека чалавекам забароненая. Тое-ж самае гаворыцца й аб выкарыстоўваньні дзіцячае працы. Гэтая прапаганда скіраваная перш за ўсё да працоўных гэтак званых капіталістычных краінаў, якія яна мае надзею ашукаць. Працоўныя-ж Савецкага Саюзу вельмі добра ведаюць, што крамлёўскія валадары, якія найбольш крычаць аб розных забаронах, увесь час займаюцца пошукамі найбольш дасканалых формаў эксплятацыі працоўных, у тым ліку моладзі, а навет і дзяцей. Гэта вельмі красамоўна пацьвердзіла шуміха пры падрыхтоўцы саракагодзьдзя камсамолу, якое нядаўна адбылося.

Гэтым разам пакінем збоку тую моладзь, якая, дабраахвотна ці пад ціскам, паехала на асваеньне цаліных земляў — моладзь, якую прымусілі адмовіцца ад далейшае навукі, ад свае будучыні. Сяньня прыгледзімся, як-жа выглядае справа з тэй моладзяй, што застаецца яшчэ на бацькаўшчыне. Наслухаўшыся розных заяваў аб няспынных клопатах партыі аб моладзі, можна было-б думаць, што тыя, хто яшчэ вучыцца далей, маюць прынамся права на адпачынак падчас канікулаў. Але «клопаты» партыі ідуць якраз ў вадваротным кірунку.

Газэта «Чырвоная зьмена» — орган ЦК камсамолу Беларусі — запоўненая рэпартажамі й фатаздымкамі, дзе паказана, як моладзь на Беларусі пакідае школьныя лаўкі і ўключаецца — зразумела, «зь вялікім натхненьнем і запалам» — на розныя будоўлі й працу ў калгасах. Аднак у гэтых рэпартажах і на фатаздымках мы бачым толькі дзяцей калгасьнікаў і работнікаў. А дзе-ж сынкі й дачушкі савецкае эліты — сакратароў і старшыняў розных «комаў», дырэктароў і гэтак далей? Дарма будзе чытач шукаць адказу на гэтае пытаньне ў газэтных рэпартажах — рэпартажах, у якіх выхвальваюцца добрыя бакі моладзі: здольнасьць, стараннасьць, ахвярнасьць — добрыя бакі, якія бальшавікі намагаюцца выкарыстоўваць для сваіх амбітных плянаў.

Аднак ёсьць месца ў газэтах, дзе мы вельмі часта сустракаем згадкі аб дзецях новае савецкае арыстакраты. Гэтае месца — рубрыкі «фэльетон» і «па сьлядох нашай інтэрвэнцыі». Пянства, зладзейства, хуліганства — вось галоўны занятак моладзі з вышэйшае бальшавіцкае клясы. Калі ўважна прагледзім газэты, дык сьцьвердзім, што амаль кажны з моладзі, затрыманы за крымінальныя злачынствы ці парушэньне публічнага парадку — гэта сынок калі не сакратара нейкага «кому», дык дырэктара фабрыкі, або ў скрайнім выпадку загадчыка нейкага складу ці магазыну.

Поўна-ж, лаюць у газэтах і работніцкую ды сялянскую моладзь за п'янства ды хуліганства. Але калі ў іхным выпадку прычына гэтага зразумелая — беспрасьветнае жыцьцё і вечная праца, дык у выпадку дзяцей савецкай арыстакратыі прычына якраз адваротная: яны, як кажуць, «з раскошы шалеюць». Найлепшым лекам для іх быў-бы якраз занятак, праца. Але іхныя ўсемагутныя бацькі да гэтага не дапусцяць... І ўсё застаецца пастарому: «пачэснае заданьне» выконваць і перавыконваць пляны застаецца для «шэрай масы». Сынкі-ж і дачушкі савецкай арыстакратыі будуць і далей вучыцца ў розных вышэйшых навучальных установах, ня гледзячы на ўсе рэформы асьветы. Гэта будзе так доўна, як доўга будзе існаваць бальшавіцкая сыстэма.

**Ул. Сьцяблевіч**

# Рэвалюцыя, ды ня тая...

Калі сьлядзіць за паведамленьнямі савецкай прэсы й ня ўдумоўвацца ў сэнс тых зрухаў, якія пераважае сяньня савецкае грамадзтва, дык ствараецца ўражаньне, што ў Савецкім Саюзе запраўды адбываецца вялікая грамадзкая й культурная рэвалюцыя. Найперш заўважаецца, што дзяржава надта зацікаўленая як у разьвіцьці літаратуры й мастацтва, музыкі, народнага творства, народнай мастацкай самадзейнасьці, у выхаваньні кадраў народных і творчых умельцаў, так і ў разьвіцьці розных грамадзка-культурных, палітычных і спартовых арганізацыяў і наагул у разьвіцьці найлепшых суадносінаў між людзьмі рознай катэгорыі. Прыкладам, у кажным нумары савецкіх культурна-грамадзкіх пэрыёдыкаў можна сустрэць тую асаблівасьць, як партыя пераважае з прычыны бязьдзейнасьці пісьменьнікаў, мастакоў і кампазытараў, якія быццамбы ня крочаць з часам і не даюць свой максімум патрэбнай прадукцыі, як яна турбуецца з поваду бязьдзейнасьці культурна-грамадзкіх установаў і арганізацыяў на вёсцы і ў горадзе, асабліва за разьвіцьцё народна-мастацкай самадзейнасьці.

Як усё гэта разумець: браць за чыстую манэту ці зьвязваць з асаблівасьцямі савецкага жыцьця й савецкай палітычна-сацыяльнай сыстэмай?

Ад пісьменьнікаў, мастакоў і кампазытараў партыя вымагае тае прадукцыі, якая паказвала-б толькі ў прыкрашаны спосаб дадатныя бакі савецкага сацыяльнага, эканамічнага, палітычнага й культурнага жыцьця, «героіку дня». Карацей гаворачы, яна патрабуе ад іх тае прадукцыі, якая мірыла-б грамадзтва з вытвараным становішчам, прыгатаўляючы яго да гэтага й псыхалягічна. Ведама, гэта раўназначна штучнаму ўзлагоджаньню супярэчнасьцяў ды наяўнае несправядлівасьці й эксплятацыі.

Падобны ўзгадаваўчы працэс зьмірэньня із становішчам праводзіцца таксама й іншымі формамі псыхалягічнага ўзьдзеяньня. Прыцягваньне юнакоў і моладзі да піянэрскіх, камсамольскіх, спартовых і іншых грамадзкіх і культурна-ўзгадоўчых арганізацыяў, як, прыкладам, у гуртку мастацкай самадзейнасьці, у якіх, між іншым, забаўляны прыймаць удзел і старэйшыя, ня ёсьць самамэтай, як гэта ня ёсьць самамэтай таксама пашырэньне сеткі клюбаў і бібліятэчак, тварэньне раённых і абласных літаратурных і мастацкіх арганізацыяў, гурткоў так званых народных умельцаў. Ува ўсім гэтым заключаецца адна мэта: адцягнуць увагу грамадзтва ад рэчаіснасьці, а наколькі гэта ўдаецца — выкарыстаць ягоны «энтузіязм» для прагрэсу так званага камунізму.

Возьмем, прыкладам, камсамол. Гэтая партыйна-палітычная арганізацыя імкнецца прывіць моладзі дух «рэвалю-

(Закончаньне на 3-яй бачыне)

# „А ці можна скараціць тэрмін?“

(Закончэньне зь 1-ай бачыны)

роткі тэрмін як мага найбольш выраб ляць сталі, цэглы, цэмэнту, жалезабэтону й іншых матар'ялаў неабходных для будаўніцтва». Далей ён злосна дадаў: «Я цэглы не ляплю й цэманту не раблю. Каб скараціць назначаныя партыяй і ўрадам тэрміны вырашэньня жыльлёвай праблемы, неабходна лепш працаваць, павышаць вытворчасьць працы, больш даваць цэмэнту, лесу й іншых матар'ялаў. Вось што трэба рабіць таварышы!»

Такім чынам Хрушчоў не знайшоў нічога лепшага, як толькі парадзіць яшчэ больш напружыць мускулы, а таксама пахваліцца, што на саракавым годзе свае ўлады партыя і ўрад далі змогу ленінградцам мець хлеб і малако. Ды, нажаль, ён не пасьмеў запоўніць прысутных, ці гэтыя хлеб і малако маюць таксама й іншыя гарады, не гаворачы ўжо аб калгасна-саўгаснай бядоце.

Што да жыльлёвае праблемы, дык, як бачым, толькі праз 10-12 гадоў, гэта значыць праз паўстагодзьдзя савецкае ўлады, яна як быццам мае быць разьвязанай. Але нельга забываць, што гэта толькі чарговая абяцанка партыі, да зрэалізаваньня якое амаль такжа далёка, як і да... камунізму.

**В. Б.**

**Аляксей Кулакоўскі**

# ДАБРАСЕЛЬЦЫ 12)

Цётка Настуля ўжо выходзіла на шлях і няўпэнена паглядвала ў бок дзяўчыны: чакаць яе ці ня чакаць? Даша падала ёй знак і, гледзячы сабе пад ногі (на дарозе выбоіны), хутка пакрочыла да яе. Насустрач ішлі людзі. Вельмі многа было людзей на пахаваньні Васіля, бо злодзеям яго ніхто ня лічыў. Разьмінаючыся з сустрэчнымі, дзяўчына адчула, як нехта ціха дакрануўся да ейнае рукі. Яна спынілася, перад ёю стаяў Валодзя. На вачох яго былі яшчэ сьляды сьлёз, густыя чарняявыя бровы то быццам-бы зьліваліся зь мехавай шапкай, то аддзяляліся ад шапкі й журботна павісалі над тварам.

— Даша, — прамовіў ён глуха й чамусьці змоўк, нібы ня мог знайсьці больш ніводнага слова.

Дзяўчына спынілася, апусьціла вочы й таксама ня ведала, што сказаць. Нейкі спалох, разгубленасьць нібы скавалі яе: цяжка стала паварушыцца, падняць павекі, вымавіць слова.

— Добры дзень, — ледзь ня шэптам сказаў Валодзя й працягваў да дзяўчыны абедзьве рукі.

Даша моўчкі зьняла рукавічку й таксама падала руку. Валодзя пацісьнуў дрыжачыя пальцы й узьняў на дзяўчыну вочы.

Ці здолеў-бы хто выказаць, што было ў гэтых вачох? Даша заўважыла ў іх вялікае гора, сорам, крыўду, адчай зьдзіўленьне і... радасна падумаць: здавалася дзяўчыне, што сярод гэтых і многіх іншых адчуваньняў яна заўважыла каханьне — шчырае, гарачае, толькі такое якое можа быць уваднаго Валодзі. Сэрца яе затрапяталася ад шчасьця. На вуснах было нейкае свова, зусім-зусім нязвычайнае, мабыць падобнае на тое, што зьяўлялася й жыватворна гучала ў час самых сьветлых сноў, што прыходзіла на памяць і асьвяжала душу ў час дзявочых роздумаў, мар і лятуценьняў. Але не зышло з вуснаў гэтае слова, яно некуды зьгінула ў такі патрэбны, у такі рашучы момант.

Валодзя ўсё-ж такі паймеўся нешта сказаць, але ў гэтую хвіліну падышла да яго заплаканая й зьнямоглая маці, якую вялі пад рукі родзічы. Аксіньня цяжка глянула на дзяўчыну і ўзяла сына за руку.

Так мінулася кароткая хвіліна спатканьня. Даша йшла надому, ледзь ня ўсім целам павісаючы на руцэ Андрэіхі. Цяпер тое слова, якраз тое самае, што трэба было сказаць Валодзі, гучала ў вушох, хвалявала, апальвала нутро. Але не дагоніш ім Валодзю, не вернеш ужо таго, што прайшло, мінулася.

«Чаму ён адразу нічога не сказаў? — мучыла дзяўчыну пытаньне. — Ён-жа быў заўсёды сьмелы, гаваркі. Няўжо крыўду носіць у душы, няўжо хоць на адну ёту верыць гэтаму чалавеку,»

Андрэіха нібы чула пакутлівыя думкі сваёй маладой сяброўкі, усім сэрцам спачувала дзяўчыне й выказвала гэта пакуль што толькі тым, што ўсё мацней прыціскала да сябе ейную руку.

— Цяжка табе? — спытала жанчына, калі яны падыходзілі ўжо да сваіх двароў.

— Цяжка, цётачка...

І жанчыне зноў уявілася тое, аб чым яна думала ўжо ня раз пасьля сустрэчы з Дашай або пасьля доўгіх і шчырых размоў. От, каб была ў Дашы маці, прыйшла-б цяпер дзяўчына дадому, кінулася-б мацеры на грудзі, выплакалася, і адлягло-б у яе ад сэрца. А то — як ні гавары, хоць і вельмі здатная на ўсё дзяўчына й сама прыгажуня, але-ж сірата. Бацька ёсьць, дык бацька ўсё-такі — ня тое.

— Ты прыходзь, Даша, пасьля вячэры да мяне, — шчыра папрасіла Андрэіха. — Пасядзім, пагаворым.

— Добра, цётачка.

XV

Што Андрэіха ні рабіла, як ні старалася супакоіць, уцешыць Дашу ў сваёй хаце, усяроўна дзяўчына мучылася, не знаходзіла сабе мейсца.

— А вы неяк казалі, што трэба маўчаць, саступаць усім з дарогі — ходзячы з кута ў кут, роспачна гаварыла Даша. — Бачыце цяпер, што выходзіць? Тут і не маўчыш, і не сядзіш, склаўшы рукі, і то вось забойцам могуць зрабіць, душу вырваць, блізкіх людзей адабраць. Бачыце, што выходзіць?

Дзяўчына ступіла да вакна, пачала ўглядацца ў мяккі зімовы паўзмрок. Яе цягнула сачыць за вуліцай, за сваім дваром, наколькі ён адсюль быў відзён. Даша ня верыла, што Валодзя ня прыйдзе, не пастараецца знайсьці яе.

— Бачу я цяпер, — азвалася цётка Настуля, седзячы на палку ля печы, — усё бачу. Некалі Андрэй мой гэтае самае казаў, што ты цяпер кажаш.

На вуліцы пачуліся далёкія галасы, і Даша ледзь ня прыліпла да аконнай шыбы. Галасы паступова набліжаліся, і неўзабаве ня толькі Дашы, а й гаспадыні стала чутно, што гэта Заткла з млынаром сьпяваюць. Яшчэ праз некалькі хвілін дзяўчына і ўбачыла іх. Мужчыны ў вабдымку шнуравалі ўкосякі па вуліцы, час-ад-часу паварочвалі адзін да аднаго п'яныя, відаць, страшэнна задаволеныя твары й цягнулі галасам усё, што толькі прыходзіла на памяць і на язык. Адзін пачынаў, другі падцягаў. Заткла, раз-по-разу зрываючыся на пеўня, намагаўся навет узяць ноту, блізкую да нейкага псальму, але млынар пры гэтых яго спробах заліваўся дзікім сьмехам і падцягваць ня браўся.

— Гэта яны з памінак ідуць, — цяжка ўстаючы зь мейсца, сказала Андрэіха. — Ім усяроўна, дзе набрацца. На пахаваньні ня былі, а на памінкі дапялі.

Даша чула, што гаварыла цётка Настуля, падзялаяла ў душы яе абураньне, але не магла адагнаць ад сябе й тую думку, што калі гэтыя лайдакі ўжо тут, то, значыцца, памінкі скончыліся, і цяпер Валодзю зручней будзе вырвацца з дому.

— Калі-б вось гэтых знайшоўся хто ды прыцісьнуў, — раздумліва сказала Андрэіха, ужо стаўшы ля вакна, побач з Дашай. — Без такіх і іншым ня было-б вялікага разгону.

— Што гаварыць пра гэтых? — зразумеўшы цётчыну думку, заўважыла Даша, — калі яшчэ тых іншых ніхто ня прыцісьнуў, калі яны яшчэ бяруць верх.

— Ня возьмуць, — упэўнена сказала Андрэіха. — Тыя ўжо ня возьмуць. Бачу я, што табе цяпер вельмі цяжка, што перажываеш ты, бо вялікая крыўда ў цябе на душы, адная-ж ведаю, што будзе твая праўда. Ты не перажывай ужо гэтак. Я сказала табе й цяпер кажу: прыйдзе Печка — сама зь ім пагавару.

— Ня прыйдзе ён, — ціха прамовіла Даша, а сама ўсё ўглядалася ў вакно.

— Прыйдзе! — намагала Андрэіха. — Калі не цяпер, дык потым. Табе цяпер трэба вось гэты свой сардэчны вузялок разьвязаць, тады й астатнiе лягчэй пойдзе.

— А як яго разьвязаць, цётка Настуля?

# Грай, Бандурысты!

Калі мы пад'ехалі а палавіне восьмай гадзіны вечарам да мюнхэнскага «Дойчэс Музэўм», перад галоўным уваходам стаяў ужо натоўп. Спачатку мы падумалі, што яшчэ «ня ўпушчаюць». Ды не — людзі проста стаялі групкамі, гутарылі, ня хочучы ўваходзіць зарана, бо мейсцы й так панумараваныя. Была чуваць найбольш украінская мова. Гэта напэўна жыхары навакольных пасёлкаў для ўцекачоў, — дагадаліся мы. — Жывучы за Мюнхэнам, яны прыехалі загадзя, каб не спазьніцца.

Гардэроба й калідоры былі ўжо таксама ня пустыя. У буфэце мы сустрэлі знаёмага ўкраінскага журналістага. Ня гледзячы на напускную абыякавасьць, ён ня можа схаваць хваляваньня:

— Думаеце, заля будзе поўная?

— Выглядае, што так. Калі цяпер ужо столькі людзей... А як дасюлешнія водгукі з выступаў у іншых эўрапэйскіх краінах?

— Прыхільныя. Прыкладам, «Ное Цюрхэр Цайтунг» вельмі хваліла.

Маючы яшчэ час, разглядаем праграму. Выступаюць супольна Украінскі Бандура-хор з Амэрыкі й Ансамбль Танцу «Орлік» з Ангельшчыны. Чытаем даведкі пра ўкраінскую народную музыку й танцы, а таксама пра ўдзельнікаў. Хор бандурыстых выступаў першы раз у Палтаве, у 1923 годзе. У 1935 годзе ён стаўся дзяржаўным і езьдзіў з турнэ па цэлым Савецкім Саюзе. Шмат з удзельнікаў гэтага хору былі арыштаваныя й высланыя. Пасьля заняцьця Кіева Немцамі, хор зарганізаваўся зноў і пачаў трыюмфальны аб'езд Украіны. Гітлераўцам было гэта не да спадобы. Пад пратэкстам турнэ па Нямеччыне, ён быў вывезены туды, і ўдзельнікі пасаджаныя ў працоўны лягер у Гамбургу. Пасьля ўпадку Нямеччыны, бандурыстыя выступалі нязраз Э былі яны і ў Мюнхэне. Амэрыканскія акупацыйныя ўлады дапамаглі хору выехаць у ЗША. Там і ў Канадзе яны зрабілі шэраг турнэ, прыніманыя ўсюды зь вялікім посьпехам.

Ансамбль танцу «Орлік» паўстаў у 1949 годзе з маладых энтузіястых у Ангельшчыне, пад кіраўніцтвам сп. Пятра Дніестровіка. Ад таго часу яны зрабілі шэраг выступаў, нязраз заваёўваючы першыя мейсцы ў розных міжнародных фэстывалях танцу.

Але пара займаць мейсцы — чуваць ужо першы званок. Вялізная заля поўная. Занятыя й бальконы. Вакол чуем самыя розныя мовы: украінскую, нямецкую, ангельскую, расейскую, польскую — зразумела, і беларускую.

Воплескі: на сцэну з двух бакоў выходзіць хор у гістарычнай вопратцы — жупан, шаравары. Кажны трымае бандуру. Не, ня кажны — апошні рад без бандураў. Стараемся хутка палічыць удзельнікаў. Здаецца 33 (як мы пазьней даведаліся ў перапынку, двух удзельнікаў — вельмі добрых сьпевакоў — захварэла). Зь іх — каля дваццацёх з бандурамі. Уражаньне надзвычайнае.

Воплескі мацнеюць — зьяўляецца дырыгент першай часткі — Уладзімер Божык. І раптам цішыня: дырыгент узьняў рукі. Чуваць першыя акорды бандураў. І ўрываецца песьня. «Грай, бандурысты!..» Словы пераплятаюцца із своеасаблівым хорам музыкі ўкраінскіх народных інструмэнтаў. Казацкія, народныя, рэлігійныя песьні. Першая частка канчаецца цудоўнай гістарычнай балядаў «Байда». Заля гучыць, воплескі не канчаюцца — посьпех відавочны.

Другая частка, пад кіраўніцтвам ведамага дырыгента й кампазытара Кытастага, пачынаецца трыма вясельнымі народнымі песьнямі й танцам «Казачок». Вышытая нацыянальная вопратка цешыць вока. Песьні — матывы то вясёлыя, то гераічныя, то рамантычныя —пераплятаюцца з танцамі — як мы ўжо казалі, «Казачок», «Каламыйка», «Гапак». Гэтым апошнім і скончыўся выступ. Задыханыя, але вясёлыя танцоры мусілі паўтарыць некалькі фігураў, бо публіка ня сьціхала...

Якое ўражаньне, пытаецеся? Надзвычайнае. Пакідаючы залю, мы ганарыліся за нашых суседзяў Украінцаў. Было толькі шкада, што не ўдалося пачуць такіх кажнаму знаёмых песьняў, як «Віють вітры», «Реве та стогне» ці нават «Взявби я бандуру» — песьняў, знаёмых ня толькі нам, але навет і Немцам. А яны напэўна ня зьнізілі-б узраўню выступу. Гэткую думку мы пачулі ад шмат каго.

Але што гаварыць аб тым чаго ня было — тое, што было, нас захапіла. Захапіла, і навяло на адну думку. Але аб гэтым — наступным разам.

**У. Неманові́ч**

# Броўка піша камсамольцам

З нагоды саракавых угодкаў камсамолу, палітрук беларускай літаратуры й партыйны трубадур Пятрусь Броўка напісаў верш пад загалоўкам: «Камсамольцам Беларусі»*)

Гэта зьявішча нармальнае: на кажную бальшавіцкую нагоду, для кажнага бальшавіцкага дыктатара Броўка заўсёды меў і мае за пазухай оду: Леніну, Сталіну, зьезду партыі, пленуму ЦК партыі, пастанове партыі і ўраду. Броўка заўсёды ў пару адбівае адпаведную колькасьць рыфмаваных нізкіх паклонаў. Праўда, гэтае рыфмаванае нізкапаклоньніцтва не заўсёды вызначаецца паэтычнымі вартасьцямі, але заўсёды выяўляе бязьмежную адданасьць аўтара таму, хто ў дадзены мамэнт стаіць на верхавіне ўлады. Нічога дзіўнага: хто плаціць — той вымагае, а Броўка — чалавек здысцыплінаваны. Таму зусім нармальна, што ён ня мог ня піснуць з нагоды саракагодзьдзя камсамолу.

І ўсё было-б зразумелым, калі-б у прыгаданым вершы Броўка абмежаваўся загалоўкам «камсамольцам», але таму, што ён яго назваў «Камсамольцам Беларусі» — паўстаюць пэўныя засьцярогі.

У дадзены мамэнт Пятрусь Броўка выконвае абавязкі палітрука беларускай літаратуры. Але адначасна ён карыстаецца званьнем беларускага паэты. Вось-жа ведаем, што кажны паэта перадусім чэрпае сваё натхненьне із скарбніцы гісторыі, культуры, традыцыяў, звычаяў і ідэалаў таго народу, песьняром якога ён зьяўляецца. Для Броўкі-ж беларуская гісторыя пачынаецца ад часу захопу Беларусі бальшавіцкай арміяй, і гэты трагічны пэрыяд бальшавіцкага панаваньня ён уважае й называе «ясным і шчасьлівым»

Прыгаданы верш Броўка пачынае:

«Вы маці — Радзіме ўсім сэрцам адданы»...

Хацелася-б спадзявацца, што пад словам «маці-Радзіма» Броўка разумее Беларусь. У запраўднасьці-ж — не, бо прыклады, зь якіх ён раіць беларускай моладзі чэрпаць натхненьне й гарт да змаганьня, ахвярнасьці й працы, узяты якраз не зь беларускай гісторыі ды традыцыяў. Броўка кажа, што «народ не забудзе» Мішу Сільніцкага й Рыму Шэршнёву, але ён ня прыгадвае ніводнага прыкладу гераізму й ахвярнасьці праўдзівых беларускіх патрыётаў. А гэткіх прыкладаў мог-бы знайсьці безьліч у гісторыі беларускага вызвольнага змаганьня толькі за апошняе саракагодзьдзе. Броўка ня прыгадвае беларускай моладзі Акту 25-га сакавіка 18-га году, які з волі народу абвяшчаў вольнасьць і незалежнасьць Беларусі. Броўка не гаворыць аб героях Слуцкага паўстаньня, якія «пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына», ані аб шматлікіх іншых паўстаньнях супраць бальшавіцкага паняволеньня. Ён таксама прамоўчвае даўгагадовае, упорыстае змаганьне беларускага народу з бальшавіцкай калектывізацыяй. Шмат іншых прыкладаў ахвярнасьці й гераізму беларускай моладзі мог-бы прыгадаць Броўка камсамольцам, калі-б ён сам быў праўдзівым беларускім паэтам, а не казённым одапісцам бальшавіцкай дыктатуры.

Вось ён кажа, што сяньня:

«Мы бачым вас мужных на новых
дарогах,
На ўсіх рыштаваньнях вялікіх
будоў...»

Вось-жа гэтыя «дарогі», або, лепш кажучы, «бездарожжы» беларускай моладзі — ў пустырох Казахстану, Алтаю, Запаляр'я й іншых дзікіх мясцох СССР, дзе гібее наша моладзь з волі броўкавых пратэктараў — маскоўскіх дыктатараў. Але гэты зьдзек над беларускай моладзяй Броўку не абурае. Наадварот, ён зь лёгкім сэрцам і лёгкай рукой піша оды ў гонар тыранаў свайго народу.

**П. С.**

*) Гэты «верш», між іншага, перадрукавала ў вадным із апошніх нумароў беластоцкая «Ніва», зьмяшчаючы яго на першай бачынцы.

---

Беларуская школа ў Нью Брансьвік, Н. Дж., жадае набыць к. 10-15 экзэмпляраў кніжкі: **Стары запавет — падручнік закону Божага для Беларускай сям'і і школы,** выдана пад рэд. Япіскапа Апанаса, 63 бач., шапірограф. выд., Ватэнштэт, 1947 г., Нямеччына.

Хто з нашых суродзічаў мае гэты падручнік і жадае прадаць яго для беларускае школкі, калі ласка, паведаміць на адрыс:

**Mr. F. Rodźka, 133 Delavan St.,**
New Brunswick, N. Jersey, U.S.A.

---

**УВАГА, ПАДПІШЧЫКІ Ў ЗША!**

**Гэтым просіцца ўсіх падпішчыкаў «Бацькаўшчыны» ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі, якія атрымоўваюць газэту беспасярэдня з Адміністрацыі ў Мюнхэне, як найхутчэй урэгуляваць сваю задоўжанасьць за газэту, высылаючы грошы на ніжэй пададзены адрас нашага Прадстаўніка ў ЗША:**

Mr. B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, N. J.

---

**«БЕЛАРУСКАЯ» КІНЭМАТАГРАФІЯ**

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

кулу даведваемся, што нават сцэнарыі на беларускія тэмы замаўляюцца ў маскоўскіх сцэнарыстых, якія Беларусі й ня бачылі ў вочы, што фільмы студыі «Беларусьфільм» ужо даўно, як піша аўтар, перасталі гучэць у роднай мове.

Камэнтары тут лішнія, але вернемся да нядаўна абвешчанага конкурсу на лепшы сцэнарый. Можа конкурс мае за мэту даць нацыянальнае абліччя фільмам беларускае кінэматаграфіі? Нічога падобнага. Вось вымогі, якія ставяцца ўдзельнікам конкурсу: «Сцэнарыі павінны быць напісаныя на актуальныя тэмы сучаснасьці, адлюстроўваць жыцьцё й барацьбу савецкіх людзей за ажыцяўленьне задач, пастаўленых XX-ым зьездам КПСС, дасягненьні беларускага народу за 40 год савецкай улады, паказаць савецкага чалавека — стваральніка новага камуністычнага грамадзтва».

І кропка. Як у свой час пісаў Колас: «Песьні ўсё старыя неаджытай гамы..» Ад беларускіх сцэнарыстых пастарому вымагаюць ствараць няжыцьцёвыя схэмы савецкага чалавека, які гэтым разам «выконвае задачы XX-га зьезду»...

Гэтым і тлумачыцца застой у беларускай кінэматаграфіі. Беларускія сцэнарыстыя не асьмельваюцца распрацоўваць нацыянальныя, блізкія сэрцу, тэмы, каб не апынуцца ў рубрыцы «буржуазных нацыяналістых». Сцэнарыі-ж аб нейкім абстрактным савецкім чалавеку ўжо згары засуджаныя на няўдачу. Савецкія конкурсы тут не памогуць. На камяністай глебе бальшавіцкай дыктатуры нічога добрага вырасьці ня можа.

**У. Н.**

## 10 год таму „Бацькаўшчына" пісала:

...Мы ня хочам тут цьвердзіць, што расейскі народ зьяўляецца задаволены із сталінскай сыстэмы й ня хоча зьнішчэньня бальшавізму. Але таксама трэба адкрыта прызнацца, што бальшавізм у вялікай, а мо і пераважаючай меры паўстаў на расейскай нацыянальнай базе й на расейскай вялікадзяржаўніцкай традыцыі ды зарадзіўся й паўстаў ён якраз толькі сярод расейскага народу. Калі пасьля кастрычніцкае рэвалюцыі вяліся ў многіх мясцовасьцях Расеі змаганьні супраць бальшавізму, дык былі гэта змаганьні вышэйшага ахвіцэрства, арыстакратыі й бюракратычных колаў, якія адкрыта былі бальшавікамі засуджаны на зьнішчэньне. Але гэта змаганьне бадай што не пацягнула за сабою расейскіх масаў. Расейскае работніцтва і ў бальшыні сваёй сялянства падтрымалі бальшавізм, а ў найлепшым выпадку захавалі нэўтральнасьць, і таму так хутка на этнаграфічнай расейскай тэрыторыі бальшавізм перамог.

№ 25/38, 7. лістапада 1948 г.

# Разьвітаньне зь сям'ёю Станкевічаў

1 лістапада мюнхэнская беларуская калёнія разьвіталася із сп-вам Станкевічамі перад іх адлётам у ЗША.

У традыцыйнай ужо для мюнхэнцаў «Марыяндэль» зьбраліся ўсе на гэты разьвітальны вечар.

Ад імя ўсіх прысутных сп. Кабыш жадаў ад'яжджаючым шчасьлівага падарожжа й памыснага ўладжаньня на новым месцы. Сп-ні З. Станкевіч, як рэдактарцы «Каласкоў», ад імя прысутных быў паднесены падарунак за ахвярную працу. Прысутны тут-жа а. Салавей у сваім разьвітальным слове, прасякнутым рэлігійнасьцяй і патрыятызмам, выказаў упэўненасьць, што сп-тва Станкевічы й надалей будуць ісьці тым-жа беларускім і хрысьціянскім шляхам як і дагэтуль.

Хоць кажнае разьвітаньне — сумны момант, але-ж, як і ўсе тут правільна падчырквалі — гэта-ж ня было расстаньне назаўсёды. Колькі ўжо нашых «эўрапэйцаў» і «амэрыканцаў» разьвіталася ды зноў віталася.

Сп-тва Станкевічы адляцелі зь Мюнхэну 4 лістапада.

Спадарыні Зіне Станкевіч і спадарычні Раі Станкевіч яшчэ раз жадаем бястурботнага й шчасьлівага ўладжаньня ў «Новым сьвеце», а Др. Станіславу Станкевічу жадаем як найбольш памысных вятроў у «Стары сьвет» (абавязкі клічуць!).

**Мюнхэнцы**

**Уладзімер Дудзіцкі**

# Станіславу Станкевічу

**(У сувязі зь ягонымі ад'езьдзінамі ў Амэрыку)**

Хто-б там што ні казаў,
але-ж ты — гэта Ты.
Рук і крыл не вязаў
на адхонах крутых.

І ня зьвяжаш, бо ён —
кораб думак цяжкіх —
і цяпер, як здавён,
кліча ў сьветкі вякі,

каб сказалі яны,
каб сказалі аб тым,
што ўсе нашы сыны
мелі час залаты;

каб сказалі яны
сьвету ў гэтым вяку,
як сягоньня сыны
гора дзён валакуць...

Словы лынуць з душы,
і гавораць — скажы:
і жыві й варушы
думак цяжкіх гужы!

☆

Праз горы, праз мора, праз акіяны
нясі нізку сноў беларускіх, мой дружа,
каб ведалі й чулі, што ў бурах каляных,
рыхтуючы Прыйсьце, жыве наша мужнасьць.

Мюнхэн, 1. 11. 58 г.

---

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

---

*Фэльетон*

# *Незакончаны рэпартаж*

Пачынаем наш рэпартаж аб сустрэчы футбалістых зборных камандаў гандлёвых работнікаў Глыбоцкага й Пастаўскага раёнаў. Капітаны каманд: глыбоцкай — в. а. старшыні райспажыўсаюзу Валковіч (Сьмірноў, які спачатку ўзначальваў каманду, атрымаў траўму з гулні), пастаўскай — старшыня райспажыўсаюзу Паўлаў. Трэнар абедзьвюх камандаў Осіпаў — намесьнік старшыні маладэчанскага аблспажыўсаюзу.

Папярэджваем аматараў футболу, што гульня вядзецца па правілах, распрацаваных самымі гандлёвымі работнікамі. Ролю мяча выконвае... кілька, варотамі зьяўляюцца аптовыя базы.

Гульня пачалася ня з цэнтру поля, як прынята ў футболе, а з варот глыбоцкай каманды. Сыгналам паслужыла тэлеграма-распараджэньне Осіпава.

Удар!

З хуткасьцяй таварнага цягніка ў кірунку Паставаў 29 сакавіка паляцеў мяч (чытай: 20 бочак ќількі). Гэта нябывалы ў футбольнай практыцы ўдар пакінуў сьлед пад выглядам накладной № 492801.

Пастаўцы не чакалі нападу. Але калі мяч паявіўся на іхнай штрафной пляцоўцы, раптоўна сталі сьцяной. Вылучную стойкасьць і кемлівасьць пры выратаваньні сваіх варот ад немінучага голю праявіў Паўлаў. Войстрая сытуацыя ліквідуецца.

Як вядома, гульня ў футбол характэрна нечаканымі пераходамі ад абароны да нападу. Ужо 17 красавіка з боку Паставаў на станцыю Глыбокае прыбыў таварны састаў, у якім пастаўскія футбалістыя адправілі сваім праціўнікам па накладной № 703144 ня толькі тых 20, а з прывескам — 30 бочак колькі. Трэба аддаць справядлівасьць: пастаўцы праявілі на гэты раз віртуозны спрыт. Гаспадаром варот (Глыбокае) ня зусім прыемны быў такі абарот справы. Але яны ня трацілі надзеі адыгрannot ў другім тайме.

Перапынак цягнуўся нядоўга. Осіпаў, як трэнар, параіў правесьці новы штурм варотаў каманды Паставаў.

Удар! Яшчэ ўдар!

І 13 чэрвеня 15 бочак кількі пакаціліся ў Паставы.

Зноў няўдача. Другая атака, як і першая, прайшла бязвынікова. Паўлаў прыгожа адбівае «мяч»-кільку назад. А 18 чэрвеня 15 бочак кількі прыбыло зноў у Глыбокае. Там аж зьбянтэжыліся ад нечаканасьці.

Першы спалох прайшоў. Выратаваньне прыйшло зь непрадбачанага боку. 11 жніўня 1958 году камісія падпісала акт абсьледаваньня. У ім, між іншым, гаворыцца, што 16 573 кілаграмы кількі ў выніку маруднае рэалізацыі прыйшлі ў поўную няпрыгоднасьць. Ускрыта 50 бочак. Рыбкі ў іх пакрыліся іржой. Паявіўся няпрыемны запах. Вось да якога стану даведзены тавар, пакуль ён чатыры разы за вясну й лета вандраваў з Глыбокага ў Паставы й назад.

10 тонаў кількі пераацэнена. Беспасярэднія страты склалі 18 тысяч рублёў, ня лічачы аплаты транспарту перавозак. Рэшту й пераацэньваць нява́рта. У тым-жа акце прыводзяцца факты псаваньня й іншых прадуктаў: селядцоў вэнджаных і атлянтычных, соевай мукі й плаўленых сыркоў, кансэрваў «Камбала» й «Ласось».

Глыбоцкія футбалістыя цяпер шукаюць даверлівых ігракоў за межамі вобласьці. 18 ліпеня з Глыбокага ў Полацак для пераадпраўкі на Ўкраіну заладована 12 кантэйнэраў з мэбляй, а 25 ліпеня — 8 кантэйнэраў у Віньніцу.

Так і ганяюць узад і ўперад па чыгунцы кільку, мэблю й іншыя тавары, быццам яны мячы. А прадукты й тавары псуюцца.

— Нічога страшнага ў гэтым няма, — гаворыць цяперашні старшыня Глыбоцкага райспажыўсаюзу. — Гэта нармальная зьява...

Просім прабачэньня, што наш рэпартаж застаецца незакончаным, бо яшчэ не праведзена ацэнка ўсіх папсутых тавараў. У дадатак дзеяньні ігракоў у гэтай гульні не кантраляваліся судзьдзёю. Яго на полі ня было.

**У. Шаблоў**
«Зьвязда», 12. 10. 58

---


## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.
**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.
**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.
**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.
**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.
**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.
**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47 Bd. de Bezons, Sartrouville (S. et O.).
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**